# Голас Радзімы

№ 30 (2120)
27 ліпеня 1989 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






Белавежскі (на здымку) — жылы пасёлак саўгаса-камбіната, што на Брэстчыне. Тут будуюцца шматпавярховыя і сядзібнага тыпу дамы. Усяго ўзведзена больш 400 добраўпарадкаваных кватэр. Ва Усесаюзным аглядзе-конкурсе па будаўніцтву населеных пунктаў пасёлак прызнаны пераможцам і ўзнагароджаны сярэбраным медалём ВДНГ СССР.

(Заканчэнне фотарэпартажу пра пасёлак і свінагадоўчы комплекс змешчаны на 3-й стар.).

ВІЗІТЫ

## ГОСЦІ З ГДР...

У БССР знаходзілася група вучоных-аграрнікаў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Прэзідэнт АСГН ГДР акадэмік Д. Шпаар, акадэмік А. Вінкель, прафесар Н. Макоўскі, доктар Г. Граўль, супрацоўнік ЦК САПГ Х. Хопф азнаёміліся з дзейнасцю навукова-даследчых інстытутаў земляробства, аховы раслін, бульбаводства і плодаагародніцтва рэспублікі. Яны наведалі Дзяржагpапрам БССР і Заходняе аддзяленне УАСГНІЛ, эксперыментальную базу «Вольна-Чэрніхова» Баранавіцкага раёна.

## ...І З СІНГАПУРА

Таксама ў Мінску знаходзілася дэлегацыя прафсаюзных дзеячаў з Сінгапура на чале з генеральным сакратаром Нацыянальнага кангрэса прафсаюзаў, намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Сінгапур Онг Тэнг Чэонгам. Дэлегацыю суправаджаў пасол Рэспублікі Сінгапур у СССР Чыанг Хай Дзінг і пасол Савецкага Саюза ў Рэспубліцы Сінгапур А. Друкаў.

Госці былі прыняты ў Белсаўпрофе. Яго старшыня У. Ганчарык азнаёміў членаў дэлегацыі з дзейнасцю прафсаюзаў рэспублікі ва ўмовах перабудовы. Адбыўся ўзаемны абмен думкамі па раду актуальных пытанняў.

Дэлегацыя з Сінгапура мела гутарку з намеснікам Старшыні Савета Міністраў БССР, старшынёй Дзяржплана рэспублікі В. Кебічам. Госці пабывалі на Мінскім аўтамабільным заводзе, дзе азнаёміліся з вытворчасцю, аб'ектамі сацыяльна-бытавога прызначэння.

НА МІЖНАРОДНЫ КІРМАШ

## ЗАПРАШЭННЕ Ў ГРАЦ

Яго перадалі беларускім дзелавым людзям арганізатары міжнароднага кірмашу ў гэтым аўстрыйскім горадзе.

У Гандлёва-прамысловай палаце БССР яны правялі прэс-канферэнцыю, у якой, акрамя журналістаў, удзельнічалі прадстаўнікі прадпрыемстваў, пасрэдніцкіх фірм, спецыялісты ў галіне маркецінга, кааператары. Дырэктар выстаўкі Г. Новак і яго намеснік Х. Кірхбергер падрабязна расказалі пра правілы правядзення прадстаўнічага форуму бізнесменаў, які мае 23 буйныя павільёны.

Наша рэспубліка ўпершыню прадставіць свае тавары на адным з кірмашоў у Грацы, намечаным на 1991 год. Пасрэдніцкія паслугі возьме на сябе Гандлёва-прамысловая палата БССР.

ДНІ ДРУЖБЫ

## МАЦНЕЕ СУВЯЗЬ

Дні савецка-іракскай дружбы, прысвечаныя нацыянальнаму святу Іракскай Рэспублікі — Дню рэвалюцыі, адкрыццё якіх адбылося ў Маскве, прайшлі ў Беларусі. Для ўдзелу ў Днях у Мінск напярэдадні прыбыла дэлегацыя Таварыства іракска-савецкай дружбы на чале з міністрам асветы Іракскай Рэспублікі Абдэлькадзірам Ізедзінам Хамудзі. Разам з дэлегацыяй у Мінск прыбыў мастацкі калектыў.

Сваё знаёмства з беларускай сталіцай госці пачалі з наведання Дома-музея 1 з'езда РСДРП. Яны пабывалі на мемарыяльным комплексе «Хатынь», дзе ўсклалі кветкі да Вечнага агню, на Кургане Славы. У той жа дзень у Цэнтральным дзіцячым парку імя Горкага адбыўся канцэрт мастацкага калектыву з Ірака.

Дэлегацыя была прынята ў Савеце Міністраў БССР.

Вечарам адбыўся ўрачысты сход прадстаўнікоў грамадскасці Мінска, прысвечаны Дням савецка-іракскай дружбы ў СССР.

Абдэлькадзір Ізедзін Хамудзі выказаў сардэчную падзяку за цёплыя сяброўскія пачуцці савецкіх людзей, якія дэлегацыя адчувала з першых хвілін знаходжання ў Беларусі.

НАРОДНАЯ ДЫПЛАМАТЫЯ

## НА АДПАЧЫНАК У ФРГ

З Мінска ў Франкфурт-на-Майне па запрашэнню заходнегерманскай антываеннай арганізацыі «Хрысціянская служба міру», якая падтрымлівае цесныя сувязі з Беларускім камітэтам абароны міру, выехалі на адпачынак работнікі мінскага вытворчага аб'яднання «Гарызонт». Гэта муж і жонка Мікалай і Людміла Дзянісевічы і Эдуард і Марыя Касцяневічы.

Адпачываць у пансіянаце на востраве Шпікероог у Паўночным моры мінчане будуць разам з грамадзянамі ФРГ і ГДР. Такая форма «народнай дыпламатыі» тоіць у сабе неабмежаваныя магчымасці чалавечых кантактаў паміж простымі людзьмі трох краін у інтарэсах міру і ўзаемаразумення.

У сваю чаргу, работнікі вытворчага аб'яднання «Гарызонт» перадалі ад імя Беларускага камітэта абароны міру і свайго калектыву запрашэнне дзвюм сем'ям з ФРГ адпачыць у жніўні — верасні ў новым санаторыі-прафілакторыі аб'яднання.

Такі абмен паміж Беларускім камітэтам абароны міру і «Хрысціянскай службай міру» ажыццяўляецца ўпершыню.

АДУКАЦЫЯ

## ЯШЧЭ АДНА ПРАФЕСІЯ

Упершыню запрасіла студэнтаў аддзяленне польскай мовы і літаратуры Гродзенскага універсітэта. Тут створана кафедра, выкладчыкі якой зараз стажыруюцца ў вышэйшай педагагічнай школе Кракава.

Пасля пяцігадовага навучання — а на першы курс новага аддзялення намечана прыняць 50 студэнтаў — выпускнікі атрымаюць кваліфікацыю настаўнікаў-філолагаў з правам выкладання польскай, а таксама беларускай і рускай моў і літаратуры.

Неабходнасць у такіх спецыялістах прадыктавана часам: у праграму некаторых сельскіх школ Гродзеншчыны па просьбе бацькоў уключана польская мова. Ужо ў мінулым навучальным годзе гутарковую мову вывучалі амаль тысяча школьнікаў. Праўда, заняткі праводзіліся ў гадзіны для гуртковай работы і факультатываў, а ўрокі вялі недастаткова падрыхтаваныя настаўнікі. Каб выправіць сітуацыю, пачата іх перападрыхтоўка. Група педагогаў-выкладчыкаў польскай мовы пабывала на стажыроўцы ў сваіх калег у Беластоку, а гродзенцы дапамагаюць тым польскім настаўнікам, якія выкладаюць у сябе на радзіме беларускую і рускую мову і літаратуру.

ЗДАРЭННІ

## НЕБЯСПЕЧНЫЯ «ТРАФЕІ»

Недалёка ад любімага месца адпачынку жыхароў і гасцей горада Брэста — сквера імя генерал-маёра Іконнікава — рабочыя капалі траншэю пад тэлефонны кабель. Яны ж і знайшлі снарад, які знаходзіўся ўсяго за паўметра ад паверхні.

Воіны-сапёры, якія неўзабаве з'явіліся, агарадзілі небяспечны ўчастак і старанна даследавалі яго. Іх «трафеямі» сталі восем гаўбічных снарадаў часоў першай сусветнай вайны. Але не толькі гэта паўстала перад вачыма людзей: у грунце знаходзілася старадаўняя вузкакалейка — шпалы, рэйкі...

Снарады былі іржавыя, што патрабавала ад воінаў асаблівага ўмення. Усё абышлося: снарады асцярожна паклалі ў кузаў з пяском і вывезлі ў бяспечнае месца.

УБОРКА ЎРАДЖАЮ



**У Брэсцкай вобласці сяляне прыступілі да ўборкі ўраджаю. Першыя 200 тон ранняй бульбы адправіў у гандлёвую сетку Брэста калгас «Знамя» Брэсцкага раёна. Усяго за летнія месяцы гаспадарка плануе прадаць тысячу тон клубняў і атрымаць ад іх рэалізацыі 150 тысяч рублёў прыбытку. Вельмі спадзяюцца земляробы на новыя гатункі, якія ўпершыню культывуюцца ў гаспадарцы. Атрыманыя па прыгранічнаму абмену з польскімі сябрамі «ірыс» і «рута» даюць па 130 цэнтнераў клубняў з гектара ў той час, як наш «беларускі ранні» — толькі сто цэнтнераў. Сёлета ўборку збожжа пачалі на тыдзень раней звычайнага. Зрабіць гэта прымусіла гарачае засушлівае надвор'е, якое паўплывала не толькі на тэрміны работ, але і на лёс ураджаю.**

**НА ЗДЫМКАХ: ранняя бульба—гораду; уборка хлеба ў саўгасе імя Кісялёва Брэсцкага раёна.**



САВЕЦКА-АМЕРЫКАНСКІ ЭКСПЕРЫМЕНТ

# ЯК «УБАЧЫЦЬ» ЯДЗЕРНУЮ ЗБРОЮ?

**Як паведамлялася, на савецкім ракетным крэйсеры «Слава» Чарнаморскага флоту адбыўся сумесны савецка-амерыканскі эксперымент па выяўленню на борце карабля ядзернай зброі. У яго арганізацыі і правядзенні ўдзельнічаў дырэктар Інстытута ядзерных праблем пры Беларускім дзяржаўным універсітэце, аўтар некалькіх навуковых адкрыццяў прафесар Уладзімір БАРЫШЭЎСКІ, які даў інтэрв'ю журналісту У. БІБІКАВУ.**

— Як мы далучыліся да гэтага эксперыменту? Былі шматлікія кантакты паміж савецкімі і амерыканскімі вучонымі, якія сумесна актыўна абмяркоўвалі праблему кантролю за ядзернай зброяй. Беларускія навукоўцы таксама вырашылі далучыцца да гэтага руху. Тут паўплывала і тое, што ў сувязі з аварыяй на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі нам прыйшлося непасрэдна займацца вывучэннем праблемы кантролю за частковым радыеактыўным забруджваннем тэрыторыі Беларусі, і, наогул, тое, што наш народ на сабе зведаў вынікі «звар'яцелага» атама, які раней лічыўся мірным. Ці варта казаць, што яго ваеннае выкарыстанне яшчэ больш небяспечнае для ўсяго свету. Зробленыя намі навуковыя распрацоўкі магчыма, у прынцыпе, выкарыстоўваць і для выяўлення радыеактыўнага выпраменьвання. Таму адзін з кіраўнікоў руху вучоных за мір без ядзернай зброі, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук СССР Я. Веліхаў прапанаваў нам увайсці ў групу даследчыкаў, якая пачала работу над праблемай кантролю за наяўнасцю ядзернай зброі на борце ваеннага карабля. На жаль, мірныя ініцыятывы Савецкага Саюза не знаходзілі падтрымкі з боку адміністрацыі ЗША, якая лічыла, што кантроль за ядзернай зброяй на моры немагчымы.

Год назад, калі Я. Веліхаў знаходзіўся ў ЗША, ён дамовіўся з вашынгтонскай навуковай арганізацыяй «Савет па абароне прыродных рэсурсаў» аб правядзенні сумеснага эксперыменту. Затым у Маскву прыехалі амерыканскія вучоныя Марцін Зукер і Том Кохран, з якімі і былі канчаткова абмеркаваны дэталі гэтай акцыі. Цяжка перадаць нашы пачуцці, калі кантэйнер адкрыўся і мы ўбачылі сапраўдную ядзерную ракету. Амерыканскія і савецкія вучоныя з дапамогай сваёй апаратуры змаглі зрабіць практычна ўсе неабходныя замеры. Прыборы беспамылкова адназначылі існаванне на борце карабля кампанентаў, з якіх складаецца ядзерная боегалоўка.

**— ЦІ ЗНАЧЫЦЬ ГЭТА, ШТО ПРАБЛЕМА КАНТРОЛЮ ЗА НАЯЎНАСЦЮ ЯДЗЕРНАЙ ЗБРОІ НА БОРЦЕ КАРАБЛЯ ВЫРАШАНА?**

— У прынцыпе зараз ясна, што яна можа быць вырашана. Аднак эксперымент паказаў і яе выключную навукова-тэхнічную складанасць. Напрыклад, боегалоўку магчыма схаваць пад палубай карабля і г. д. Таму патрабуюцца далейшыя сумесныя намаганні вучоных.

**— ЦІ ЗНАЙШЛІ САВЕЦКІЯ ВУЧОНЫЯ ЎЗАЕМАРАЗУМЕННЕ З АМЕРЫКАНСКІМІ КАЛЕГАМІ?**

— Так, і гэта тычыцца не толькі навукі, але і палітычных пытанняў. Мы былі адзінымі ў тым, што праблему кантролю за ядзернай зброяй можна і трэба вырашыць. І савецкім, і амерыканскім вучоным у роўнай ступені характэрна занепакоенасць становішчам, што склалася ў галіне ядзерных узбраенняў, і імкненне дапамагчы сваім урадам паменшыць небяспеку ваеннага канфлікту. Мы многа размаўлялі аб дружбе паміж нашымі народамі, успаміналі і супрацоўніцтва ў гады другой сусветнай вайны. Амерыканцы памятаюць пра яго і лічаць мінулае вельмі важным, прычым не толькі вучоныя, але і кангрэсмены, якія таксама прысутнічалі на савецкім ваенным караблі. Вядома, палітыкі ўзважваюць пазіцыі бакоў, як гаворыцца, да міліграма. Наша ж задача таксама — дапамагчы пераадолець цяжкасці на шляху да ядзернага разззбраення.

**— ЯКІ БУДЗЕ ЧАРГОВЫ ЭТАП СУМЕСНАЙ РАБОТЫ САВЕЦКІХ І АМЕРЫКАНСКІХ ВУЧОНЫХ?**

— Складзены графік сумесных дзеянняў. Амерыканскія вучоныя лічаць, што трэба яшчэ правесці эксперымент з выкарыстаннем іншых метадаў кантролю, што дазволіла б больш эфектыўна шукаць адказ на пытанне, ці ёсць на караблі ядзерная зброя. Справа ў тым, што могуць быць створаны ядзерныя боепрыпасы, якія не выпраменьваюць якіх-небудзь часцінак, і тады метадамі, якімі карысталіся на «Славе», іх сцісці наўрад ці ўдасца. Адным словам, патрэбны далейшыя эксперыменты. У тым ліку і на амерыканскіх караблях. Бо мы, савецкія вучоныя, так і не ведаем, як на іх устанаўліваецца ядзерная зброя.

Галоўны ж вынік эксперыменту на Чорным моры, на мой погляд, такі: ініцыятыва вучоных, іншых груп, якіх хвалюе трываласць міру ва ўсім свеце, можа рэальна ўплываць на развіццё палітычных працэсаў. Дыпламатыя сапраўды становіцца народнай. І я заклікаю іншыя грамадскія арганізацыі свету далучыцца да намаганняў савецкіх і амерыканскіх вучоных.

*РАБОЧЫЯ ВУЧАЦЦА КІРАВАЦЬ*

# НЕ ПРАЙСЦІ МІМА

На Магілёўскім аўтазаводзе стварэнне Савета працоўнага калектыву пачалося па даўно знаёмых схемах. Прафсаюзны камітэт даў указанні ў цэхі падабраць дастойных кандыдатаў, іх абмеркавалі на агульных сходах калектываў. З 50 прапанаваных кандыдатур прафком рэкамендаваў 35 чалавек. Іх аднагалосна зацвердзілі на агульназаводскай канферэнцыі. Усё прайшло гладка і... сумна. Такое раўнадушша моцна раззлавала выбранага ў савет токара Мікалая Сянко. Пагаварыў з калегамі, зайшоў у партком, заўком, а потым і да старшыні савета, нядаўна выбранага дырэктара Міхаіла Жылко. І сказаў апошняму пра тое, што думаў:

— Няскладна атрымліваецца, Міхаіл Лявонцьевіч. Ну добра, выбралі нас не асабліва задумваючыся, гэта палова бяды, час пакажа, хто чаго варты. Але глядзіце: рабочых у савеце з 35 чалавек усяго 14. І, уво прабачце, непарадак, калі на чале органа самакіравання стаіць першая асоба ў адміністрацыі.

— Старая інерцыя галасавання спрацавала, — згадзіўся Жылко.

— Я цвёрда перакананы, — развіваў сваю думку Мікалай, — што ў савеце павінны быць вопытныя кампетэнтныя спецыялісты. Кіраваць прадпрыемствам — справа складаная, не ўсё рабочаму пад сілу. Але ўсё ж савет — перш за ўсё голас рабочага калектыву, адпаведна ён і павінен падбірацца...

Дырэктар згадзіўся тады з довадамі рабочага. І на першым жа пасяджэнні савета прапанаваў на пасаду старшыні... самога Сянко. Яго дружна падтрымалі: аднаго з лепшых токараў на заводзе і ведалі, і паважалі.

— Завяваць аўтарытэт савета аказалася не так-та проста, — прызнаецца Сянко.— Па-першае, зусім новы орган з незразумелымі на першым часе функцыямі. Потым — занадта многа ў завода цяжкасцей накапілася...

І сапраўды, у сярэдзіне 30-х гадоў прадпрыемства было буйнейшым у Еўропе па аўтарамонту. У гады Айчыннай вайны, пасля эвакуацыі ў Куйбышаў, завод выпускаў авіяматоры. Пасля вызвалення Магілёва ад фашыстаў, устаўшы з руін, спецыялізаваўся на вытворчасці скрэпераў. Ён да сёння адзіны ў краіне вытворца машын такога класа. І, мяркуючы па ўсім, манапольнае становішча сыграла з магіляўчанамі злы жарт. Патрэба ў будаўнічай тэхніцы ў краіне вялізная, толькі давай, і кіруючыя інстанцыі звяртал мала ўвагі на тое, як старэе абсталяванне, падае якасць вырабаў, як адстаюць машынабудаўнікі ад сусветнага тэхнічнага ўзроўню. У 1985 годзе план быў «завалены» па ўсіх паказчыках, магілёўскі скрэпер пазбаўлены дзяржаўнага Знака якасці, пагоршылася фінансавае становішча...

Карацей кажучы, дырэктару Міхаілу Жылко і савету працоўнага калектыву адразу давялося займацца дзесяткамі вастрэйшых і неадкладных задач.

— Мы для сябе вылучылі самае важнае: якасць прадукцыі, — гаворыць Сянко.

— На ўсіх вытворчасцях стварылі групы якасці. Штомесяц сталі слухаць іх справаздачы на савеце. Нацэлілі канструктараў на распрацоўку праекта скрэпера сусветнага ўзроўню. Адначасова сталі шукаць ведамствы, якія зацікаўлены ў хуткай рэканструкцыі завода. Знайшлі іх. Як толькі выправілі фінансавае становішча, заняліся жыллёвым будаўніцтвам, падсобнай гаспадаркай...

— Што вас цяпер асабліва клапоціць?

— Дзейнасць савета. Мы яшчэ не размежаваліся да канца з прафсаюзнай арганізацыяй функцыянальна. Узяць, напрыклад, галоўны клопат прафсаюзаў — сацыяльна-бытавыя пытанні. У вострa канфліктныя сітуацыях, асабліва пры размеркаванні жылля, звяртаюцца ўсё-такі да нас. Гэта правільна: дэлегаты рабочага калектыву павінны стаяць на варце справядлівых інтарэсаў кожнага працаўніка. Дзейнасць савета відна і пры размеркаванні фонду матэрыяльнага заахвочвання пасля таго, як мы перайшлі на гаспадарчы разлік. Справа гэта тонкая, неабходна дакладна ведаць першачарговыя патрэбы людзей. І, нарэшце, састаў савета. Ёсць яшчэ ў ім яўна выпадковыя людзі. З трыццаці чалавек (пяцёра пайшлі на пенсію) калі палавіны — рабочыя. Гэтага мала. З'явілася ў нас думка расшырыць савет: увесці ў яго так званых «нефармальных лідэраў». У кожным цэху ёсць такія, іншы раз яны цягнуць калектыў у бок ад вырашэння першачарговых спраў...

У дапаўненне да [illegible]х слоў Мікалая Сянко т[illegible] сказаць, што нядаўна, калі завод стаў асвойваць новы скрэпер, склалася канфліктная сітуацыя. «Вузкіх месцаў» на вытворчас[illegible] яшчэ многа, і адміністра[illegible] каб іх пераадолець, выбрала далёка не лепшы шлях. Яна вымушана была прапанаваць агульназаводскай канферэнцыі графік звышурочных работ. Дванаццаць «чорных субот» канферэнцыя без энтузіязму зацвердзіла, але рабочая справядліва абурылася.

— Да мяне падыходзілі людзі, гаварылі, куды ж савет глядзіць, мы вас выбралі абараняць нашы інтарэсы, а вы... Я і іншыя адказвалі: завод на гасразліку, калі ён у цэлым план не выканае, вы ж прэміі не атрымаеце. Нічога, адказваюць, грошы знойдуцца. І сапраўды, грошы потым знайшліся, хаця, па-моему, гэта блізарукая пазіцыя, паколькі ў аснове яе — старая надзея на захаванне гарантаванай зарплаты, незалежна ад канчатковых вынікаў працы. Які ж гэта гасразлік! Напомнілі мы і аб цяжкасцях завода, аб тым, што звышурочныя — вымушаная і часовая мера, ад іх абавязкова адмовімся, як толькі на прадпрыемстве направяцца справы... Карацей кажучы, на першы суботнік выйшлі ўсе. А ў панядзелак частка рабочых выйшла «адпачыць». Якраз дзякуючы заклікам «нефармальных лідэраў»!

Прайсці міма гэтага савет не мог. На пасяджэнне выклікалі вінаўнікаў прагулу, крута з імі пагаварылі. Тады і ўзнікла гэта ідэя — увесці некаторых «нефармалаў» у савет. Будзем спрачацца напрамую, разам шукаць правільныя рашэнні!..

У нашым грамадстве цяпер ідуць глыбінныя працэсы, якія вядуць да фарміравання рэальнага народаўладдзя. Усё аджыўшае ва ўпартай барацьбе адступае. Працэс гэты нялёгкі, і пацвярджэнне таму — дзейнасць савета працоўнага калектыву Магілёўскага аўтазавода.

Ігар МІХАЙЛАЎ.



# САЎГАС-КАМБІНАТ «БЕЛАВЕЖСКІ»

**Здаўна людзі, як кажуць, абыходзілі бокам урочышча Марцылін. Ва ўсім Камянецкім раёне не было больш такога неўрадлівага месца. І калі ў 1982 годзе чатырыста дваццаць юнакоў і дзяўчат прыехалі сюды будаваць саўгас-камбінат, мясцовыя жыхары папярэджвалі іх: «Прагарыць ваша справа. Тут спрадвеку зямля няўдзячная была».**

**Справа не прагарэла. І будаўнікі не раз'ехаліся. Былыя сталяры, муляры сталі асвойваць новыя спецыяльнасці: слесараў, электрыкаў, аператараў, механізатараў. Пасяліліся ў новых добраўпарадкаваных дамах, што самі ж узводзілі, у пасёлку Белавежскім, абзавяліся сем'ямі і сталі працаваць [illegible]і-нагадоўчым комплексе. Гаспадарка — [illegible]йное высокамеханізаванае прадпрыемства, разлічанае на ўзнаўленне, вырошчванне і адкорм 108 тысяч свіней. Штогод яна прадае дзяржаве каля 15 тысяч тон мяса. Багатая гаспадарка — заможнае жы[illegible]е працаўнікоў. Для іх непасрэдна на [illegible]п-лексе пабудаваны буфет, магазін. Палову кошту абедаў работнікам комплексу аплачвае прадпрыемства. Да паслуг жывёлаводаў — душавыя, дзве сауны, прафілакторый. Каля двухсот працаўнікоў гаспадаркі штогод адпачываюць па санаторных і турысцкіх пуцёўках.**

**А ў самім пасёлку ёсць дзіцячы сад, сярэдняя школа, медыцынская амбулаторыя, аптэка, гандлёвы цэнтр, рэстаран, гасцініца... Гэты спіс можна прадоўжыць. Да таго ж яшчэ некалькі аб'ектаў сацыяльна-культурнага прызначэння ўвойдуць у лік дзеючых у недалёкай будучыні.**

**Сёння, расказвае дырэктар саўгаса Юрый Мароз, у гаспадарцы працуюць 700 чалавек, прадстаўнікі трынаццаці нацыянальнасцей. А заявы з просьбай прыняць на работу атрымліваем літаральна кожны дзень. І мы стараемся ісці насустрач людзям. Тым больш, што магутнасці камбіната пастаянна растуць і нам патрэбны рабочыя рукі.**

**НА ЗДЫМКАХ: старшы заатэхнік В. ВАЙТОВІЧ і галоўны селекцыянер С. МАЦЮК на племяннай ферме; гэты фантан ля свайго дома зрабіў шафёр В. БЕРГ; казачная крэпасць у дзіцячым садзе «Зубраня».**

**Фота М. МІНКОВІЧА.**





# *КАМП'ЮТЭР ЗАЎТРАШНЯГА ДНЯ*

**Завершаны дзяржаўныя выпрабаванні новай ЭВМ ЕС 1130. Чым адрозніваецца ад іншых машын адзінай сістэмы сумесная распрацоўка вучоных навукова-даследчага інстытута ЭВМ і вытворчых работнікаў? Галоўны канструктар Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі Вадзім Пыхцін расказвае:**

— Яшчэ нядаўна заказчык быў непераборлівы — браў любую тэхніку. Але наступованае насычэнне рынка змяніла структуру парка ЭВМ: за рубяжом ужо лічыцца ідэальным варыянт, калі супер-ЭВМ працуюць у комплексе з вялікай колькасцю малых машын высокай прадукцыйнасці. Яны ўступаюць «старэйшым братам» па хуткасці і аб'ёму памяці, але больш надзейныя і, што таксама немалаважна, каштуюць значна танней. Першай мадэллю машын такога класа ў СССР і стане ЕС 1130.

— Навінка знойдзе самае шырокае прымяненне ў народнай гаспадарцы,— лічыць старшыня дзяржаўнай камісіі доктар тэхнічных навук Анатоль Мямлін. — Па ўсіх паказчыках яна значна вышэй папярэдніх машын адзінай сістэмы. А прапанаваны распрацоўшчыкамі новы метад дыягнаставання няспраўнасцей не толькі просты і надзейны, а я б сказаў, што гэта якасны рывок наперад. Не менш цікава, па думцы дзяржаўнай камісіі, і прапанаванае мінчанамі рашэнне пульта інжынера і аператара. Упершыню ў краіне на машынах такога класа ён заменены на персанальную ЭВМ.

Намеснік галоўнага канструктара ЭВМ ЕС 1130 Іван Еўсігнееў дапаўняе.

— Гэта была сумесная распрацоўка часовага творчага калектыву спецыялістаў інстытута і завода. Адначасова стваралася дакументацыя, тэкставыя праграмы, адладжваліся вопытныя ўзоры камп'ютэра, навучаліся спецыялісты і ішла падрыхтоўка да запуску машыны ў серыю. І ўсё гэта дазволіла стварыць новую мадэль не толькі дастаткова якасную, але і ў вельмі сціслыя тэрміны.

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»




50 гадоў таму назад, 17 верасня 1939 года заходнія вобласці Беларусі былі вызвалены Чырвонай Арміяй ад прыгнёту буржуазнай Польшчы і ўліліся ў БССР. Гэтай знамянальнай і радаснай падзеі ў жыцці беларускага народа прысвечана кніжка Я. Турайкевіча «Вераснёўскі світанак», якая толькі што выйшла ў «Бібліятэчцы газеты «Голас Радзімы».

Названае выданне — не гістарычнае даследаванне, не сухі расказ пра жыццё і змаганне братоў-беларусаў ва ўмовах сацыяльнага і нацыянальнага ўціску. «Вераснёўскі світанак» — успамін пра бачанае і пražытае, пачутае ад бацькоў і старажылаў-аднавяскоўцаў.

У кніжцы расказваецца пра вёску Асташына, што на Навагрудчыне, але тое, што там адбывалася, магло быць і ў Шаркоўшчыне, і на Слонімшчыне, і ў любым іншым кутку былой Заходняй Беларусі, адкуль да 1939 года за мяжу выехалі тысячы беларусаў, папоўніўшы рады эмігрантаў у Аргенціне і Парагваі, Канадзе і Злучаных Штатах Амерыкі...

Прачытаўшы «Вераснёўскі світанак», не адзін з нашых землякоў, напэўна, успомніць, што і ў яго бацька не ведаў, як раздзяліць той невялікі лапік зямлі на ўсіх сыноў, што рабіць, каб самому не пайсці з жабрачай торбай па вёсках. Успомняць і рэвалюцыйныя сходкі, і праследаванне паліцыі. Каб не трапіць у дэфензіву, многія і ехалі тады за акіян.

Вось толькі Вялікая Айчынная вайна і пасляваеннае адраджэнне адбывалася без іх. Пра той час, гераічны і жорсткі, яны даведаюцца потым, калі атрымаюць газеты з Бацькаўшчыны, пачуюць ад сваякоў, з якімі сустрэнуцца, прыехаўшы праз многа гадоў у родныя мясціны. Прыедуць і не пазнаюць свае вёскі, бо якія б цяжкасці мы ні перажывалі, якія б нягоды нас не гнялі, жыццё ў Беларусі за пасляваенныя гады непазнавальна змянілася. Няма ў нас галодных і непісьменных, прыгнечаных і абяздоленых. Можа і не заўсёды гладка ішлі гаспадарчыя справы ў калгасе, з вышыні сённяшняга дня няцяжка заўважыць мінулыя хібы і пралікі, але ж нельга адмаўляць і бясспрэчныя поспехі. Школы, Палацы культуры, сельскагаспадарчыя машыны на палях, прасторныя дамы сялян — прыкметы сучаснай беларускай вёскі. Змяніліся і сяляне: адукаваныя, культурныя, гаспадарлівыя.

У прадмове да кніжкі рэдакцыя звяртаецца да суайчыннікаў з просьбай напісаць у газету, прачытаўшы «Вераснёўскі світанак», падзяліцца сваімі ўспамінамі аб мінулым і ўражаннямі аб сустрэчах з Радзімай.

**Д. БАБАК.**

***НАЛЕЖАЦЬ НАШАЙ ГІСТОРЫІ***

# ПЕРШЫ НАРКОМ ЗЕМЛЯРОБСТВА

Ёсць у Мінску на плошчы Леніна будынак, які многае можа расказаць сталічнаму жыхару і нераўнадушнаму госцю. Размешчаны побач з Домам кіно, былым касцёлам, ён летам патанае ў зеляніне ліп, у яго вокны л'юцца хвалюючыя пахі квітнеючых руж, урываецца шум гарадскога транспарту. На сценах дома ўсё прыбаўляецца мемарыяльных дошак, але пакуль што няма памятнага знака чалавеку, імя якога на працягу шасцідзесяці гадоў шальмавалася, суправаджалася ярлыкамі, накшталт «платны агент», «правы апартуніст», «вораг народа». У гэтым доме ў другой палове 20-х гадоў жыў Дзмітрый Прышчэпаў, народны камісар земляробства Беларусі, член ЦК КП (б) Б і ЦВК БССР, чыё жыццё і дзейнасць многія гады былі звязаны з пераўтварэннем сельскай гаспадаркі рэспублікі. Сёння прыйшоў час адкінуць выдумкі і фальшывыя абвінавачанні, вярнуць народу светлае імя яго сына, ленінскай партыі — камуніста. Варта, на[illegible]це, разабрацца, чаму бел[illegible]кі народ усё яшчэ не ведае праўды пра Д. Прышчэпава, як здарылася, што замест прозвішча засталося толькі страшнае ў гісторыі слова [illegible]ышчэпаўшчына», якое м[illegible] гады было сімвалам варожасці нашаму ладу.

Нарадзіўся Дзмітрый Прышчэпаў 21 лістапада 1896 года ў вёсцы Калодніца былой Чарэйскай воласці Сенненскага павета Магілёўскай губерні. Сёння гэта вёска знаходзіцца ў Крупскім раёне, што ў Мінскай вобласці, з'яўляецца цэнтрам калгаса «Авангард». Яго жыхары з поўным правам могуць ганарыцца, што тут, на беразе возера Сялява, — радзіма вядомага партыйнага і дзяржаўнага дзеяча Беларусі.

Бацькі Прышчэпава былі простымі сялянамі-беларусамі. Філімон Ермалаевіч, выбіўшыся з сіл на невялікім сялянскім надзеле, працаваў на млыне ў мясцовага памешчыка. Маці, Марыя Захараўна, добрага нораву жанчына, рабіла дома. Дзяцей у сям'і было сямёра, з іх пяць дзяўчынак і два хлопчыкі. З ранніх гадоў Дзмітрый быў пастухом, падрос — батрачыў у больш заможных сялян.

Расказваюць, што аднойчы, вяртаючыся дажджлівым вечарам з млына дамоў, Філімон Ермалаевіч знайшоў у гразі вузялок з грашыма. Ён добра ведаў цану бядняцкай капейчыне, прыйшоў да прыгнечанага горам суседа і аддаў грошы. Той у знак удзячнасці і ўзяўся дапамагчы Філімону Ермалаевічу ў навучанні аднаго з сыноў. Як старэйшы, пайшоў вучыцца Дзмітрый.

Вучыўся толькі зімой. Спачатку ў царкоўна-прыходскіх школах, затым у двухкласнай. Здаўшы ў 18-гадовым узросце экстэрнам экзамен на званне народнага настаўніка, стаў працаваць у сельскай школе. Аднак прарабіў усяго год: грымнула першая сусветная вайна. У 1915 годзе радавы Прышчэпаў прызываецца ў царскую армію і трапляе ў лейб-гвардыі егерскі полк. Дрэнна падрыхтаваная да вайны руская армія нясе вялікія страты. Усё больш не хапае афіцэраў. Гэта прымушае камандаванне на некаторы час забыць аб каставасці афіцэрскага корпуса і пасылаць на паскораную падрыхоўку афіцэраў салдат, з ліку найбольш талковых і пісьменных.

Так Дзмітрый Прышчэпаў трапляе ў Віленскае ваеннае вучылішча, якое канчае ў кастрычніку 1916 года. Пасля непрацяглай службы ў якасці малодшага афіцэра ў 131-м запасным палку накіроўваецца на Заходні фронт, прызначаецца камандзірам роты. У Лютаўскай рэвалюцыі ўдзелу не прымаў, як пісаў затым — «жыў настроямі кадравага афіцэрства». Але паводка рэвалюцыі падхоплівае і новаспечанага падпаручніка Прышчэпава. Ён пранікаецца рэвалюцыйнымі настроямі салдат, прымыкае, як піша затым у аўтабіяграфіі, да эсэраў.

Салдаты выбіраюць Прышчэпава камандзірам палка, старшынёй Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Прыналежнасць да эсэраў, а не да бальшавікоў, цалкам магла гэтаму спрыяць — эсэры на перадкастрычніцкім этапе карысталіся ўплывам сярод сялянства, умелі павесці за сабой салдат. Сам Д. Прышчэпаў піша, што ў кастрычніку 1917 года, у **момант кастрычніцкага перавароту** (падкрэслена мной — **М. К.**), працаваў у арміі на Заходнім фронце і быў выбраны старшынёй палкавога Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Ён адзначае, што ВРК былі створаны партыяй замест палкавых і іншых камітэтаў, якія складаліся з меншавікоў, эсэраў, кадэтаў і іншых контррэвалюцыйных элементаў.

Далей Д. Прышчэпаў, сцвярджаючы, што ён знаходзіўся ў партыі бальшавікоў з мая 1917 года, прыводзіць сведчанне члена бюро Сенненскага павятовага камітэта партыі Шчапілы, які піша, што ведае Д. Прышчэпава як бальшавіка з 1917 года.

З розных супярэчлівых даных, думаецца, можна заключыць, што Д. Прышчэпаў усё ж быў у 1917 годзе ў партыі эсэраў, пра што потым, зразумеўшы памылковасць сваёй пазіцыі, лічыў пісаць нявыгадным і нават небяспечным. Такі вывад напрошваецца і таму, што ён не ўпамінаў таксама ў аўтабіяграфіі аб удзеле ў 1918 годзе ў леваэсэраўскім мяцяжы.

У 1917 годзе Д. Прышчэпаву толькі 20 гадоў. Сацыялістычная рэвалюцыя, несумненна, зрабіла ўплыў на яго палітычны выбар, вызначыла жыццёвую пазіцыю. Дамоў ён вяртаецца з бальшавіцкімі настроямі.

У 1919 годзе Д. Прышчэпаў — інструктар па страявой часці, палітработнік 15-й арміі, затым узначальвае Веліжскі рэўком, уваходзіць у склад павятовага выканкома і партыйнага камітэта, вядзе рашучую барацьбу з бандытызмам. Некаторы час ён працуе старшынёй Аршанскага павятовага выканкома, а з красавіка 1923 года ўзначальвае Віцебскі губвыканком і адначасова кіруе губернскім зямельным упраўленнем. Пачынаецца перыяд актыўнага эканамічнага і культурнага развіцця Беларусі, правядзення землеўпарадкавання, пошуку новых форм кааперавання сялян. Д. Прышчэпаў блізка ўспрыняў ленінскія ідэі аб каапераціі, цэлымі днямі прападаў у вёсках, гутарыў з сельскім актывам, землямерамі, сялянамі. Слухалі яго прагна, убіраючы кожнае слова аб зямлі, харчпадатку, насенні, ільготах. Дзіўнае адбывалася навокал: былыя памешчыцкія сядзібы сталі народнымі маёнткамі. Беззямельныя беднякі надзяляюцца зямлёй, ствараюцца першыя сялянскія калектыўныя таварыствы па сумеснаму гаспадаранню. У той жа час адкрыты свабодны выбар форм землеўпарадкавання. VI з'езд КП(б)Б у сакавіку 1922 года цалкам далучыўся да законапраекта РСФСР аб свабодным выбары форм землекарыстання. Парадак яго ажыццяўлення канкрэтызаваўся ў пастанове ВЦВК «Аб працоўным землекары[illegible]і», прынятым на пасядж[illegible] трэцяй сесіі ВЦВК 22 мая 1922 года. У ім канкрэтна агаворвалася, што кожнае зяме[illegible]нае таварыства мае права выбраць любы спосаб землека[illegible]тання. Гэтую тоненькую [illegible]ашуру Д. Прышчэпаў заўсёды насіў з сабой, хаця змест яе ведаў напамяць. Яна была важкім аргументам у гутарцы з сялянамі.



Сустрэчы і гутаркі дапамагалі Дзмітрыю Філімонавічу быць у курсе настрояў і дум сялян, больш выразна бачыць перспектывы работы.

У сакавіку 1924 года Д. Прышчэпаў прыязджае ў Мінск: СНК БССР назначыў яго намеснікам наркома земляробства Беларусі. Выбіраецца ён членам Прэзідыума ЦВК БССР. Пасады высокія, адказныя, а з улікам рашэння новых задач і цяжкія. Цяжкасці ўскладняюцца і сельскім перанасяленнем, і вострым недахопам зямлі. Землезабяспечанасць рэспублікі ніжэй сярэдняй нормы па Саюзу ССР на 41 працэнт. Фактычнае забеспячэнне сярэдняй сялянскай гаспадаркі знаходзілася ніжэй за неабходны надзел на 35,6 працэнта. Не хапала таксама цяглавай сілы. У рэспубліцы налічвалася 13,7 працэнта гаспадарак без коней і 5,2 працэнта без кароў.

Д. Прышчэпаў уваходзіць ва ўрад з прапановай аб неабходнасці паляпшэння крэдытавання сялянства, адшуквае дадатковы зямельны фонд з непрыдатных і іншых зямель, пускае іх на бясплатнае надзяленне беднаты. Спецыялізацыю сельскай гаспадаркі на вытворчасці буйной рагатай жывёлы, развіцці малочнай жывёлагадоўлі, свінагадоўлі і птушкагадоўлі ён вызначае беспамылкова, паколькі ведае рэспубліку, яе прыродныя і кліматычныя ўмовы змалку. Асабліва яго непакоіць становішча з малочнай жывёлагадоўляй. У рэспубліцы 68 працэнтаў сялянскіх гаспадарак з адной каровай. Гэтага мала. Каб паправіць становішча, неабходна расшыраць травасеянне, палепшыць кармы, наладзіць ветэрынарнае абслугоўванне.

Д. Прышчэпаў, выступаючы па гэтых пытаннях на VI сесіі ЦВК БССР у лютым 1925 года, дабіваецца адкрыцця ў Віцебску ветэрынарнага інстытута, паляпшэння забеспячэння медыкаментамі, лячэння сялянскай жывёлы. У выніку прынятых мер становішча сялян палепшылася.

Настойлівасць, апантанасць, з якой працаваў Д. Прышчэпаў, была заўважана. Неўзабаве Савет Народных камісараў БССР зацвердзіў яго народным камісарам земляробства рэспублікі. Яму споўнілася дваццаць сем гадоў. Вопытных, кваліфікаваных спецыялістаў не хапала, таму за многае Д. Прышчэпаў браўся сам. Нярэдка браў патрэбныя паперы — і дамоў. І тады дапазна гарэла святло на першым паверсе дома ля чырвонага касцёла. Чалавек таленавіты, мэтанакіраваны, Д. Прышчэпаў умеў спалучаць работу і сустрэчы з калегамі, сябрамі. У яго гасціннай кватэры сваімі людзьмі былі Янка Купала, Міхась Чарот, Д. Жылуновіч, В. Кнорын, У. Ігнатоўскі і многія іншыя. Чыталі вершы, абмяркоўвалі навіны літаратуры і мастацтва, горача абменьваліся думкамі, дзяліліся планамі і задумамі. Застолляў не наладжвалі, бо жылі бедна, збіраліся для гутарак, кожны ў гэтым чэрпаў тое неабходнае, што ўзбагачала духоўна і маральна. Усе жылі з думкай пра заўтрашні дзень, які мроіўся радасным і светлым.

Дух узаемаразумення ў сям'і Прышчэпавых панаваў заўсёды. Яго падтрымлівала жонка Любоў Апалінараўна, гаваркая і па-беларуску шчырая гаспадыня. Умела забавіць гасцей, любіла іграць на раялі і ахвотна спявала. 7 мая 1924 года ў Прышчэпавых нарадзіўся сын, якому далі ў памяць аб Уладзіміру Ільічу Леніне імя Нінел, што ў адваротным прачытанні азначала «Ленін». Калі сын падрос, сталі часцей уцякаць ад гарадской мітусні на прыроду. Забіраліся звычайна ў якую-небудзь глухамань, на «корм камарам», як жартавала Любоў Апалінараўна. Такія сустрэчы з прыродай давалі новыя сілы і энергію, так неабходныя ў рабоце.

У 1927 годзе сельская гаспадарка Беларусі дасягнула перадваеннага ўзроўню. Гэту акалічнасць адзначыў VIII з'езд Саветаў Беларусі. Зрухі былі адчувальныя.

На з'ездзе з дакладам услед за А. Чарвяковым выступіў Д. Прышчэпаў. Звыкла аперыруючы лічбамі, ён указаў на павелічэнне, у параўнанні з 1916 годам на 24,3 працэнта коней, 41,5 — буйной рагатай жывёлы, 15,8 — свіней, 66,9 — працэнта авечак. Радаваў і рост ураджайнасці.

Выкладаючы асноўныя напрамкі першага пяцігадовага плана аднаўлення і развіцця сельскай гаспадаркі, адобранага ўрадам рэспублікі, Д. Прышчэпаў гаварыў, што трэба ўзняць на новы ўзровень аграномію, палепшыць якасць насення, звярнуць увагу на ўгнаенні, пачаць падрыхтоўку кадраў спецыялістаў.

Але яшчэ больш востра стаяла пытанне аб мерах супраць драблення, парцэляцыі сельскай гаспадаркі. Прычыны гэтай з'явы былі розныя, але важнейшая — недахоп зямлі, перанаселенасць вёскі, якая абумоўлівала не толькі падзел бацькоўскага надзелу паміж сынамі, але і перасяленне сялян на Далёкі Усход, у Сібір, Паволжа і на Каўказ. Выйсце з узнікшых цяжкасцей Д. Прышчэпаў бачыў у расшырэнні работ па меліярацыі зямель. З гэтымі мэтамі быў распрацаваны Водна-меліярацыйны кодэкс, у адпаведнасці з якім у работы па меліярацыі ўцягваліся і сяляне, хто атрымаў за гэтую работу дадатковыя ўчасткі ўрадлівай зямлі.

**Мікалай КУЗНЯЦОЎ.**

(Заканчэнне будзе).







Японскую крэветку, кубінскага блакітнага рака, каўказскага краба, усемагчымых чарапах, яшчарак, жаб і, вядома ж, рыб розных відаў і парод можна ўбачыць у акватэрарыуме, які адкрыўся ў Мінску, у парку імя М. Горкага. Акварыумісты, а іх у горадзе некалькі дзесяткаў тысяч, атрымалі цудоўны падарунак: цяпер яны і ўсе аматары прыроды змогуць пазнаёміцца з жыццём 76 відаў рыб трапічнай іхтыяфауны і больш чым 20 відаў насельнікаў рэк і вадаёмаў нашай рэспублікі. Тут жа можна атрымаць кваліфікаваную параду спецыялістаў — старшага навуковага супрацоўніка Міхаіла Скарахода і загадчыка акватэрарыума Аляксандра Ваньковіча. Менавіта дзякуючы іх ініцыятыве і вялікай арганізатарскай рабоце і з'явіўся ў парку гэты цудоўны куток. Аляксандр Валянцінавіч і Міхаіл Пятровіч перанеслі сюды свае асабістыя калекцыі, якія карпатліва збіралі гадамі. Шчодра дзеляцца арганізатары акватэрарыума сваімі ведамі, шчыра хочуць дапамагчы ўсім, хто падзяляе іх захапленне.

НА ЗДЫМКАХ: Аляксандр ВАНЬКОВІЧ (злева) і Міхаіл СКАРАХОД; у акватэрарыуме; прадстаўнікі трапічнай іхтыяфауны — японскія каляровыя карпы «ком».

Фота Л. КЛІМАНСКАГА.

*ЦІКАВА ВЕДАЦЬ*

# ВЯЛАЕ

У XIV—XVI стагоддзях Валожын быў цэнтрам удзельнага княства. Горадам і акругай валодалі пачаргова Валожынскія, Слушкі, Монвіды, Гаштольды, Радзівілы, Чартарыйскія, а ад 1803 года — Тышкевічы.

Так званы «Валожынскі ключ» быў багатай маёмасцю, якая ў пачатку XIX стагоддзя займала 40 тысяч гектараў. У склад яе ўваходзілі, апроч наваколляў горада, вялікія абшары пушчы абапал ракі Іслачы — лясныя масівы, багатыя разнастайнай флорай і жывёльным светам. Вадзіліся тут у вялікай колькасці ласі, казулі, дзікі і мядзведзі, а на рацэ Іслачы густа сяліліся бабры. Не менш было тут і рознай птушкі.

Уладальнікі пушчы і запрошаныя госці часта наладжвалі тут паляванні на ласёў, мяса якіх было пастаяннай ежай паноў, і на дзікоў, якія прызначаліся для чэлядзі і работнікаў.

У цудоўным закутку сярод лугоў і лясоў на беразе хуткаплыннай ракі Іслачы, якая працякала пад засенню векавых дрэў і пераплеценых дзікім хмелем зараснікаў, здаўна стаяла хата лесніка. Гэта ўрочышча, якое з'яўлялася выдатным прыпынкам для паляўнічых, звалася Вялае.

Мясцовасць вельмі спадабалася дзедзічу Бенедыкту, старэйшаму сыну графа Міхаіла Тышкевіча, і ён загадаў пабудаваць там у 1840 годзе аднапавярховы дом, так званы «палац паляўнічых».

Кожны год пад восень прыязджаў ён са сваёй рэзідэнцыі, маёнтка Чырвоны Двор, або Кенігсбург, размешчанага на тэрыторыі сучаснай Літвы, у Вялае на вялікай чатырохконнай калясцы-«берліне» ў суправаджэнні шматлікіх вазоў з чэляддзю, кухняй і псярняй.

Спыніўшыся ў «палацы», увесь час праводзіў ён са сваімі спадручнымі і запрошанымі з акругі знакамітымі гасцямі на паляваннях — адстрэльвалі ласёў і дзікоў на мяса, а мядзведзяў для паляўнічай прыемнасці. (Апошні мядзведзь быў забіты ў Вялым у 1887 годзе).

Аднойчы, калі граф Бенедыкт вяртаўся са сваім братам Янам, уладальнікам Біржанскага маярата, заламаўся пад чацверыком коней мост на Іслачы, у выніку чаго Ян загінуў. Гэта здарылася 20 жніўня 1862 года, і доўгі час існаваў на месцы трагічнага здарэння помнік з адпаведным надпісам.

Пасля паўстання 1863 года звяроў у вялаўскай акрузе не стала. Іх вынішчылі паўстанцы, якія хаваліся па лясах, царскія салдаты, што высочвалі «інсургентаў», і розныя браканьеры. У рапартах паляўнічых з 1870 года не ўспамінаецца ўжо ні пра ласёў, ні пра дзікоў. Зніклі нават глушцы.

Сыну заснавальніка Вялага таксама спадабаўся гэты адасоблены куток пушчы, і ён загадаў дабудаваць да паляўнічага дома другі паверх і ўзвесці некалькі гаспадарчых будынкаў. Вялае пачало расці: з цягам часу было тут некалькі цагляных будынкаў, якія пасля таго, як згарэў «палац паляўнічых», сталі пачаткам новага Вялага — мураванага.

У 1898 годзе гаспадаром Чырвонага Двара і Вялага стаў унук заснавальніка паляўнічай рэзідэнцыі Бенедыкт Ян, які валадарыў там да верасня 1939 года.

Па яго ініцыятыве ў 1902 годзе ўзнік побач з Вялым на плошчы 400 гектараў першы на Беларусі звярынец такога маштабу. Агульны кошт яго агароджы (не лічачы кошту ўласнага лесаматэрыялу) склаў больш тысячы рублёў, што было на той час вельмі значнай сумай.

У гэты звярынец былі запушчаны плямістыя алені, там знаходзіліся некалькі казуль, а апроч таго праз спецыяльна пакінутыя «скакалкі» пранікла некалькі ласёў. У 1907 годзе былі прывезены сюды 4 аднагадовага ўзросту мядзведзі.

Аднак з часам высветлілася, што гэта каштоўная агароджа вельмі непрактычная, бо праз яе «скакалі» або, робячы падкопы, пранікалі ў звярынец ваўкі і чынілі там вялікую шкоду. Адзін з плямістых аленяў, застаўшыся такім чынам без сяброўкі, стаў пагрозай для ўсёй акругі, і толькі пасля таго, як ён смяротна параніў жанчыну, што неасцярожна наблізілася да агароджы, яго ў 1907 годзе застрэлілі. (Апошні з прывезеных мядзведзяў быў забіты ў 1910 годзе).

У пачатку 1915 года колькасць плямістых аленяў у звярынцы дасягнула 60 галоў, казуль было значна больш і толькі 4 ласі.

У тым жа 1915 годзе руская армія пачала капаць паблізу Вялага абарончыя траншэі, адна лінія якіх пагражала паўночнай ускраіне звярынца. У гэты ж час узброеныя вінтоўкамі браканьеры ўсё часцей пранікалі за агароджу і бязлітасна выбівалі звярыну. 26 жніўня 1915 года ўладальнік Вялага забіў там апошняга шасцігадовага лася і пакінуў Вялае. Пасля ягонага ад'езду агароджа часткова разбурылася, часткова яе (асабліва дубовыя слупы) расцягнулі сяляне. Так закончылася ў той раз існаванне звярынца.

Пасля першай сусветнай вайны Пяршайскія лясы з Вялым у якасці рэзідэнцыі графа апынуліся на тэрыторыі Польшчы (ад Вялага да былой савецкай граніцы 22 кіламетры).

У 1926 годзе ў памесці Вялае-Пяршаі былі праведзены мерапрыемствы па павелічэнню колькасці звярыны і з'явілася ідэя аднаўлення знішчанага звярынца. Пачалася работа над агароджай плошчы новага зверагадавальніка. Па велічыні засталася яна такой, як і раней (400 гектараў), аднак межы яе значна змяніліся. Праз сярэдзіну [illegible]ынца працякала маляўніча [illegible]ачулка Люцынка, паўднё[illegible]раніцай тэрыторыі стала ху[illegible]каплынная Іслач.

7 верасня 1928 года завершаны быў апошні пралёт агарод[illegible] якая каштавала (не лічачь[illegible]аснага ляснога матэрыялу) 13 з паловай тысяч злотых — амаль у тры разы даражэй за перадваенную.

Стваральнікі новай агароджы ўлічылі вопыт сваіх папярэднікаў і пастараліся пазбегнуць ранейшых пралікаў.

Агароджа будавалася з дубовых слупоў, злучаных дзвюма лагамі, да якіх прымацоўваліся перпендыкулярна двухметровыя палі. Для папярэджання падкопаў ля споду было працягнута некалькі радоў калючага дроту, сабранага паблізу ваенных траншэяў. Такім чынам два рады дроту каля зямлі зачынялі доступ ваўкам, два іншыя ўмацоўвалі частакол, а верхні рад канчаткова замыкаў агароджу.

У 1938—1939 гадах у звярынцы знаходзілася 35 звычайных аленяў і 50 пярэстых, там жа існавалі «баброўнік» і «фазанарый».

Другая сусветная вайна і фашысцкая акупацыя ізноў сталі прычынай разбурэння звярынца і ліквідацыі цікавага паляўнічага эксперыменту.

Пятро БІТЭЛЬ.

## спорт

Многія мацнейшыя лёгкаатлеты СССР і ГДР прынялі ўдзел у матчы дзвюх краін. Гэтыя спаборніцтвы прайшлі ў Бранску. Лік матча 229:171 на карысць зборнай Савецкага Саюза. Тут вызначыліся і беларускія спартсмены. Кідальнік молата з Гродна Ігар Астапковіч перамог з лепшым у свеце вынікам сезона: 82 метры 52 сантыметры. Віцябчанін Уладзімір Будзько фінішаваў першым у бар'ерным бегу на дыстанцыі 400 метраў.

У зборнай гандбольнай камандзе нашай краіны ідзе амаладжэнне. Яна ўжо цяпер прыступіла да камплектавання саставу, які выступіць на «Алімпіядзе-92». Адной з падрыхтовак да адказных спаборніцтваў стаў міжнародны турнір у Мадрыдзе. Зборная СССР па два разы перамагла гаспадароў і каманду Польшчы. У турніры ў Іспаніі выступалі мінчане Міхаіл Якімовіч, Георгій Свірыдзенка і Канстанцін Шараўараў.

Наталля Зверава ў пары з Ларысай Саўчанка з Львова заваявалі «серабро» на знакамітым Уімблдонскім турніры па тэнісу. Другое месца было ў іх і летась.

Чэмпіянат свету па фехтаванню прайшоў у Дэнверы. Зборная рапірыстаў СССР заваявала залатыя медалі. Упэўнена вёў нашу каманду да перамогі мінчанін Аляксандр Раманькоў.

Першы розыгрыш Кубка краіны па барацьбе самба прайшоў ва Уладзімірскай вобласці. Сярод пераможцаў — беларуская спартсменка Галіна Савенкава.

# МАЙСТРЫ З АГОВА

Не так даўно мінуў час, калі добры куфар быў абавязковай прыналежнасцю сельскага дома. У яго складвалі пасаг нявесты, ён выкарыстоўваўся для захоўвання адзежы. А яшчэ служыў куфар упрыгажэннем сялянскага дома. І таму кожны майстар імкнуўся надаць непаўторнасць свайму вырабу ў адпаведнасці з мясцовымі традыцыямі хто разьбой, хто каванымі ўзорамі. А на Палессі куфры распісвалі. Яркія кветкі, мудрагелістыя арнаменты стваралі ў доме святочны настрой, выдатна дапаўнялі тканыя посцілкі і ручнікі, вышытыя фіранкі. Адным з цэнтраў па вырабу куфраў была вёска Агова, што ў Іванаўскім раёне Брэсцкай вобласці. Час унёс свае карэктывы ў інтэр'ер сельскага дома. Куфры ўжо не пасавалі да сучаснай мэблі і пачалі паступова знікаць. Але засталіся вернымі традыцыям майстры з Агова, праўда, некалькі змяніўшы прызначэнне сваіх вырабаў. У сяле арганізавалі вытворчы ўчастак Брэсцкай фабрыкі сувеніраў. Яго прадукцыя — невялікія куфэркі, шкатулкі, драўляныя хлебніцы, ярка распісаныя або ўпрыгожаныя інкрустацыяй з саломкі, зноў сталі карыстацца папулярнасцю. Попыт на іх па ўсёй краіне. Экспартуюцца вырабы ўмельцаў з Агова ў Чэхаславакію і ЗША. Вось і ў бягучым годзе агоўскія майстры вырабяць звыш сямі тысяч кантэйнераў для хлеба, каля 3 200 распісных і інкруставаных куфэркаў, амаль шэсць тысяч шкатулак «Рамонак».



НА ЗДЫМКУ: інкрустатар Алена ЖЫДКО.

Тэкст і фота Я КАЗЮЛІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:
МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі

Індэкс 63854. Зак № 846